ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

# Кніга Ноша

№ 17
снежань, 2012

ЗАСНАВАЛЬНІКІ: ГА"САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ", МГА"ЗБС"БАЦЬКАЎШЧЫНА"

## АЎТОГРАФ

# Леанід ГАЛУБОВІЧ: «Паэзія не бывае чужой ці нечай...»



**– Шаноўны Леанід Міхайлавіч, сёлета ў Вас выйшла даўно чаканая чытачамі кніга паэзіі «З гэтага свету». Кажу «чаканая», бо пры чытанні Вашых зацемак і крытычных артыкулаў не пакідала адчуванне, што і вершы таксама пішуцца… Што ўсё ж такі натхніла Вас праз гады вярнуцца да паэзіі?**

– Паэзія і натхніла. Я не адыходзіў ад яе, як таго і вымагала мая штодзённая праца рэдактарам крытыкі (і ў «Крыніцы», і ў «ЛіМе»). Я чытаў і неабходнае для сваіх выданняў, і запатрабаванае маёй уласнай натурай. Больш за тое, публікаваў свае ўражанні ад прачытанага. Але не думаю, што мяне натхніла «на сваю ўласную паэтычную творчасць» сучасная беларуская паэзія. Вечарамі я заўжды перачытваю сваю любімую класіку: Багдановіча, Жылку, Танка, Куляшова, Стральцова, Сербантовіча, Янішчыц, Цютчава, Аненскага, Ахматаву, Блока, Чухонцава, Фроста, Рыльке, найлепшыя ўзоры японскай і кітайскай паэзіі… Паэзія не бывае чужой ці нечай. Калі ты ёю захапляешся, то яна ўжо твая. Не важна, хто і калі яе напісаў. Аднойчы, едучы сонечным ранкам на працу ў вагоне трамвая, пад манатонны перагрук колаў, у паўдрымоце прыйшло ў галаву чатырохрадкоўе… Прайшло больш дзесяці гадоў. Як такое магло стацца? Здзіўлены, па прыездзе я яго запісаў… Пасля – само па сабе, час ад часу – пачало з'яўляцца іншае. Калі (праз маю нястрымную шчырасць) пра тое даведаліся калегі, то паступова схілілі да выдання зборніка. Такая вось гісторыя. Сама паэзія сваёй унутрана-затоенай сілай ссунула цяжкі камень зароку… Скажу толькі, што вярнуўся я ўсё ж да вершаў, а не да паэзіі, як бы мне таго ні хацелася…

**– «Завязаўшы» з паэзіяй, Вы пераключыліся на крытыку і больш за 10 гадоў аналізавалі творчасць іншых пісьменнікаў. У чым, на Ваш погляд, адметнасць літаратурнага працэсу 2000–2012 гадоў?**

– Найперш трэба сказаць, што гэты працэс катастрафічна скукожыўся. Былі творча кастрыраваны ўсе літаратурна-мастацкія часопісы і тыднёвік «ЛіМ». Наўслед адбыўся мусовы падзел Саюза пісьменнікаў. Але галоўнае не ў гэтых праявах неронаўшчыны. Мастацтва ўжо ад пачатку перабудовы, ад нечаканай перанасычацці свабодай слова, ад «лёгкасці духоўнага быцця» пачало губляць сваю асабовую ўнутра-

*(Працяг на стар. 8)*

### Даведка «Кніганошы»:

**Леанід Галубовіч – паэт, празаік, крытык. Аўтар кніг «Таемнасць агню», «Бусел без гнязда», «Таемнасць споведзі», «Заложнік цемры», «Споведзь бяссоннай душы», «Зацемкі з левай кішэні», «апошнія вершы леаніда галубовіча», «Сыс і кулуары», «З гэтага свету». Нарадзіўся ў 1950 годзе ў вёсцы Вароніна на Клеччыне. Жыве ў Мінску.**

## ■ МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА




**Цвірка Кастусь. Выбраныя творы; уклад. А. Клышкі, прадм. А. Вярцінскага, камент. К. Цвіркі. – Мінск: Кнігазбор, 2012. – 608 с. [8] с.: іл. – («Беларускі кнігазбор»: Серыя 1. Мастацкая літаратура).**

У аднатомнік выбраных твораў Кастуся Цвіркі (нар. 1934) увайшлі выбраныя вершы, паэмы «Хат вячысты дар» і «Дома», раман «Воўчая выспа», краязнаўчыя нарысы «Будзіла вёску берасцянка», а таксама публіцыстыка. Шэсцьдзесят другі том кніжнага праекта «Беларускі кнігазбор».




**Казакоў Валерый. Выбраныя творы. Укладанне В. Казакова і А. Пашкевіча, прадмова А. Бальшаковай. – Мінск: Кнігазбор, 2012. – 608 с. [8] с.: іл. – («Беларускі кнігазбор»: Серыя 1. Мастацкая літаратура).**

У кнігу выбраных твораў Валерыя Казакова (нар. 1952), беларускага пісьменніка, які жыве ў Расіі, увайшлі раманы «Цень Гобліна» і «Халоп Яснавяльможнага Дэмакрата», а таксама апавяданні, запісы, эсэ. Шэсцьдзесят пяты том кніжнага праекта «Беларускі кнігазбор».




**Казакоў Валерый. Абибоки: миниатюры = Абібокі: мініяцюры. – Мінск: Кнігазбор, 2012. – 85+85 с.**

Кнігу мініяцюр можна перагортваць, як пясочны гадзіннік, і чытаць з двух бакоў: па-беларуску і па-руску. Назву кнігі і яе канцэпцыю аўтар тлумачыць у прадмове: «Часта ўвосень, калі ідуць бясконцыя дажджы, калі нізкія, яшчэ не агідныя аблокі, чапляючыся адно за адно, паўзуць бясконцымі статкамі, а рэдкія прыглушаныя пробліскі сонца нечакана ўспыхваюць у мільярдах дробных і бялявых, як макавае зерне, расінках, – раптам нараджаюцца абібокі – спакойныя, марудлівыя, можа, дзесьці гультаяватыя развагі аб усім і ні аб чым. У беларускай мове гэтае слова – «абібок» – і азначае: гультай, сузіральнік. Мне здаецца, як бы актыўна ні жыў чалавек, ён усё адно застаецца абібокам свайго жыцця, яму заўсёды ёсць што сказаць, без надрыву, без праспеху, сказаць, як убачылася, як падумалася. Галоўнае – не прамінуць гэты шчаслівы час…»




**Пакроўскі Андрэй. Як я перастаў верыць у Дзеда Мароза: проза. – Мінск: Логвінаў, 2012. – 100 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; Пункт адліку).**

Дэбютную кнігу Пакроўскага склалі кароткія апавяданні, якія напоўніцу раскрываюць тэму Дзеда Мароза, тэму ровара, тэму Антона, які насамрэч Андрэй, і шмат іншых важных для пісьменніка тэм, актуалізуюць праблемы кубка кавы і тралейбуса. Кніга спадабаецца ўсім, для каго гэтыя тэмы таксама вострыя і актуальныя, усім, каму згаданыя праблемы гэтаксама вярэдзяць чулыя струны душы.




**Федарэнка Андрэй. Сечка: літаратурныя эсэ. – Мінск: Галіяфы, 2012. – 136 с.**

Гэтыя літаратурныя эсэ пісаліся на працягу 10 гадоў. Вось як абазначыла іх крытык, выкладчыца, літаратуразнаўца М. Верціхоўская: «Структурна «Сечка» Андрэя Федарэнкі ўяўляе сабою мазаіку з перлаў. Гэта сапраўдная з'ява і падзея ў найноўшай літаратуры. Каб стварыць такую, трэба добра ўяўляць агульную задуму карціны – выразна паказаць чалавека і яго справу. Феномен «сечкі» Федарэнкі ў тым, што замешана яна на такой дробязі, як мастацкасць…»




**Аркуш Алесь. Палімпсэст: раман. – Мінск: Галіяфы, 2012. – 164 с. – (Бібліятэка Таварыства Вольных Літаратараў).**

«Палімпсэст» – першы буйны празаічны твор вядомага паэта, эсэіста, стваральніка Таварыства вольных літаратараў Алеся Аркуша. Рэальныя героі маладосці пісьменніка трапілі ў «бурштын» творчага пераасэнсавання мінулага і набылі другое, гэтым разам літаратурнае, жыццё.




**Станкевіч Юры. Шал: тэксты. – Мінск: Галіяфы, 2012. – 318 с. – (Другі фронт мастацтваў).**

У новы зборнік аўтарскай, калі-нікалі эксперыментальнай прозы ўвайшлі тры вострасюжэтныя аповесці, некалькі невядомых апавядаў розных гадоў, кінасцэнар і эсэ. Галоўныя персанажы аповесцяў, воляй лёсу кінутыя ў самыя нечаканыя абставіны, часам межавыя з выжываннем, змагаюцца за сваю годнасць, жыццё і годнасць сваёй Бацькаўшчыны. Тэма эсэ – кіно, і прысвечана памяці аднаго з найлепшых рэжысёраў свету – Акіры Курасавы.




**Кузменка Змітрок. Пакуль жыву, спадзяюся: вершы. – Мінск: Галіяфы, 2012. – 110 с.**

У зборнік увайшлі вершаваныя творы, напісаныя цягам 1999–2011 гадоў. У паэтычных радках дамінуе роздум аўтара над лёсам роднай Беларусі: яе слаўным ды трагічным мінулым, няпростай сучаснасцю і трывожна-туманнай будучыняй. Кніга адрасуецца неабыякаваму чытачу.

## ■ МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА




**Акудовіч Валянцін. Кніга пра Нішто. – Мінск: Логвінаў, 2012. – 308 с. («Collegium Sarmaticum»).**

Кніга даследуе дыскурс Нішто самымі рознымі спосабамі. Шмат месца прысвечана гісторыі гэтай праблемы: ад моманта яе паўставання ў філасофіі старажытных грэкаў да абнулення ўніверсаліі Нішто ў эпоху постмадэрна.

Асноўны кантэкст кнігі – метафізіка адсутнасці; галоўныя героі – Парменід, Лейбніц, Гайдэгер і Сартр; канцавая мэта – абнаяўленне Адсутнага.




**Макулатура №2: Часопіс беларускай прозы. Выпуск №2. SCOTTCKI. – Мінск: Логвінаў, 2012. – 178 с.: іл.**

Другі нумар часопіса прысвечаны Шатландыі і змяшчае ажно траціну рамана шатландскага пісьменніка – фантаста Іэна Бэнкса. У нумары можна знайсьці тэксты вядомых беларускіх пісьменнікаў: Альгерд Бахарэвіч, Віктар Жыбуль, Адам Глобус, Уладзіслаў Ахроменка ды Аляксей Талстоў. У часопісе ўпершыню таксама з'явіўся беларускі пераклад нашумелага эсэ нямецкай пісьменніцы Юдыт Хэрмэн «Тры гадзіны на нічыйнай зямлі» пра яе падарожжа па Оршы.




**Рублеўскі Сяргей. Паспець надыхацца: эсэ, мініяцюры. – Мінск: Медысонт, 2012. – 128 с.**

У кнізе сабраны новыя, а таксама расцярушаныя па іншых выданнях аўтара лірычныя мініяцюры, якія з'яўляюцца для яго найбольш зручным спосабам літаратурнага выяўлення, нязмушаным, як дыханне, працяглым, як Божая мера жыцця. Мініяцюры «З нясшытага літаратурнага дзённіка» дапоўненыя эсэістыкай.




**Лангерава Жо. Калісьці ў Браціславе. Маё жыццё з Оскарам Л.: раман; пер. са славацкай мовы Паўла Раагі. – Мінск: Зміцер Колас, 2012. – 270 с.**

Напісаны ў бліскучым літаратурным стылі аўтабіяграфічны раман Жо Лангеравай (1912–1990) распавядае пра няпросты лёс, які выпаў на долю аўтаркі, – ад поўных наіўнымі надзеямі даваенных гадоў да цяжкіх часоў эміграцыі ў ЗША падчас фашысцкай акупацыі, не меней жорсткага перыяду пасля вяртання ў сталінізаваную Чэхаславакію, дзе па надуманым абвінавачанні быў арыштаваны яе муж, да адлігі 1960-х і Пражскай вясны, а з ёю новай акупацыі, гэты раз савецкай, і новай эміграцыі, ужо канчатковай, – у Швецыю. Намаляваная аўтарам карціна, якая ёсць адбіткам асноўных падзеяў ХХ стагоддзя, не пакідае абыякавым ніводнага чытача.




**Слобада Рудольф. Розум: раман. – Мінск: Зміцер Колас, 2012. – 270 с. – (Littera scripta).**

Раман «Розум» – адзін з найбольш вядомых твораў выдатнага славацкага пісьменніка і сцэнарыста Рудольфа Слобады (1938–1995), у якім аўтар вуснамі свайго героя, няўдалага літаратара-інтэлектуала, аналізуе стасункі розуму і маральнасці і разважае над вечнымі і няпростымі праблемамі дачыненняў творцы і грамадства, жонкі і мужа, мужчыны і жанчыны.




**Буланда Вера. Шчырая споведзь мая: зборнік паэзіі. – Мінск: Выд. В. Хурсік, 2012. – 198 с., фота з архіва аўтара.**

Кнігу склалі новыя вершы, вершы-прысвячэнні родным, сябрам і знаёмым, і «Казка пра Дуб і Дзядоўнік».

Я радасцю жыццё сваё напоўню,
Святлом душэўным сэрца наталю.
Сябрам і сваякам – усім напомню,
Як шчыра і сардэчна іх люблю.




**Твардоўскі Ян. Разам з Табою: выбраныя вершы = Razem z Tobą : wiersze wybrane. – Мінск: Про Хрысто, 2012. – 312 с.**

У зборніку «Разам з Табою» змешчаны выбраныя вершы выдатнага польскага паэта ксяндза Яна Твардоўскага (1915–2006), пададзеныя ў арыгінале і ў перакладзе на беларускую мову. Пераклад вершаў на беларускую мову здзейснілі Данута Бічэль і Хрысціна Лялько.




**Зьніч. Крэсіва: выбранае і ўспаміны. – Слонім: Слонім. друк., 2012. – 512 с.**

У гэтым зборніку – выбраныя публікацыі розных гадоў, якія высвечваюць творчае і духоўнае станаўленне аднаго з нашых сучаснікаў – інака Мікалая, паэта Зьніча, філосафа і музыканта Алега Бембеля. Асаблівую ўвагу чытачоў прыцягне передрук кнігі «Роднае слова і маральна-эстэтычны прагрэс», якая выходзіла раней у Лондане.




**Дэбіш Васіль. Праз дождж: вершы. – Брэст: ААТ «Брэсцкая друкарня», 2012. – 176 с., малюнкі.**

«Праз дождж» – трэці па ліку паэтычны зборнік вершаў берасцейскага паэта. У ім – спроба асэнсавання мінулага і сённяшняга жыцця, роздумы пра чалавечую годнасць, сяброўства, каханне, нашу, часам абсурдную, рэчаіснасць.

# Усё па-сапраўднаму – прэзентацыя кнігі «Птушкі» Насты Манцэвіч

Яшчэ да прэзентацыі першай кнігі Насты Манцэвіч вакол зборніка «Птушкі» разгарэліся зацятыя спрэчкі ў віртуальнай прасторы, якія не сціхлі і дагэтуль. Нехта палічыў, што ў кнізе зашмат натуралізму, што да апісання эратычных сцэн, іншым жа прыйшліся даспадобы стыль Насты і яе ўменне расказаць гісторыю. Рэдактар кнігі Павел Анціпаў у інтэрв'ю аднаму з тэлеканалаў сказаў, што разумны чытач, які прачытае зборнік, абавязкова ўбачыць, што рэчы, за якія ўпікаюць аўтарку, – мастацкі прыём, абумоўлены тэкстам.



Трэба сказаць, што даўно ў беларускай літаратурнай прасторы не з'яўлялася кніг, якія б выклікалі такі розгалас. «Птушкі» ж развярэдзілі шмат якія балючыя праблемы – нецярпімасці «талерантных» беларусаў, непаразумення пакаленняў, непарушнасці аўтарытэтаў, «тусовачнасці» і герметычнасці літаратурнага асяроддзя. Сама ж Наста Манцэвіч трымаецца адасоблена ад гучных спрэчак.

На прэзентацыі «Птушак», што прайшла 6 верасня, яна адзначыла, што ўспрымае сваю кнігу, як дзіця, якое вырасла, і ўжо жыве сваім жыццём. «Магчыма, я хацела б яму іншага жыцця. Але яно такое, якое ёсць. Я хачу яго падтрымаць у дарослым жыцці, і найлепшай падтрымкай лічу – прачытаць амаль усе тэксты без цэнзуры», – сказала аўтарка.

Такім чынам прэзентацыя прайшла ў фармаце аўтарскага чытання. Напрыканцы імпрэзы адбылася аўтограф-сэсія.

**Прэсавая служба СБП**
**Фота АУ**

# Дэбют Андрэя Пакроўскага ў «Пункце адліку»

23 лістапада адбылася прэзентацыя зборніка Андрэя Пакроўскага «Як я перастаў верыць у Дзеда Мароза». Гэта чарговая кніга ў падсерыі «Пункт адліку» серыі «Кнігарня Пісьменніка», якую Саюз беларускіх пісьменнікаў стварыў для маладых аўтараў, якія яшчэ не маюць кніг. Імпрэза прайшла пры падтрымцы кампаніі «Будзьма беларусамі!»

Напачатку аўтар падзякаваў усім, хто спрычыніўся да выдання кнігі: рэдактарам Паўлу Анціпаву і Ганне Янкута, карэктару Алене Пятровіч, жонцы-рэдактару-карэктару-і-музе ў адной асобе Віялеце Пачкоўскай, а таксама Саюзу пісьменнікаў.

Наступным узяў слова старшыня СБП Барыс Пятровіч, які сказаў: «Калі я чытаў гэтую вясёлую, займальную, дасціпную і сур'ёзную кнігу, раптам на сярэдзіне адчуў, што мяне агортвае сум. Я падумаў, што гэта можа быць настальгія па маладосці, па далёкім мінулым, калі мы, маладыя студэнты, збіраліся разам, чыталі свае творы і марылі, што некалі, перафразуючы радок з вядомай савецкай песні, «ператворым Кафку ў жыццё». Ведалі мы пра Кафку, канечне, але пра Хармса не здагадваліся. І таксама, як і Хармс, пісалі ў стол. І сум гэты ад таго, што, падалося, быў у нас нейкі перыяд адноснай вольнасці, а цяпер мы вярнуліся ў практычна тыя ж далёкія застойныя часы, калі і надзеяў асаблівых не было на перамены. Я маю на ўвазе брэжнеўскія часы, калі мы пісалі свае творы ў стол без надзеі надрукаваць. Неяк падалося мне, што за гэты час нічога не змянілася. І калі б Андрэй ды іншыя хлопцы і дзяўчаты пайшлі сёння са сваімі творамі ў дзяржаўныя выдавецтвы, ім сказалі б тое ж, што некалі казалі нам. І таму вельмі добра што з'явілася гэтая бібліятэчка, серыя кніжак «Пункт адліку» для маладых. Я ўдзячны найперш выдавецтву «Логвінаў» і прысутнаму тут Паўлу Анціпаву, якія дапамаглі рэалізаваць гэты праект».




Барыс Пятровіч заўважыў, што стылістыка твораў Пакроўскага нагадала яму тое, што некалі рабіў ён, і таму яму захацелася падарыць Андрэю сваю першую кнігу «Сон між пачвар», якая выйшла дваццаць гадоў таму ў «Мастацкай літаратуры» фантастычным па сённяшніх часах накладам у шэсць тысячаў асобнікаў. Паколькі атмасфера на прэзентацыі на самым пачатку была даволі камерная, Барыс Пятровіч дазволіў сабе прачытаць два караценькія апавяданні з той кнігі.

Тым часам наведнікаў на прэзентацыі пабольела. Кнігу Андрэя Пакроўскага дапамаглі прадставіць яго сябры: Наста Манцэвіч і Кірыл Дубоўскі, зборнікі якіх нядаўна выйшлі ў «Пункце адліку», Павел Анціпаў, а таксама паэт і перакладчык Уладзімір Лянкевіч.

Наста пачала сваё чытанне з серыі пра кубкі. Павел Анціпаў выбраў найбольш брутальныя тэксты Пакроўскага, прачытаў сваё апавяданне пра Новы год з цыклу пра Боба Іванавіча і Марса Марсавіча. Кірыл Дубоўскі прачытаў сваё апавяданне пра зіму і гісторыю «Размеркаванне» са зборніка «Як я перастаў верыць у Дзеда Мароза». Уладзімір Лянкевіч таксама агучыў два апавяданні.

Завяршылася вечарына аўтограф-сесіяй Андрэя Пакроўскага ў кнігарні «ЛогвінаЎ».

**Прэсавая служба СБП**
**Фота АУ**

## НАВУКА/ПУБЛІЦЫСТЫКА/ДАВЕДНІКІ




**Чыгрын Сяргей. Слонімскія падмуркі: гісторыка-краязнаўчыя і літаратуразнаўчыя артыкулы. – Мінск: Кнігазбор, 2012. – 296 с.**

У кнізе ідзе гаворка пра гісторыю Слоніма і Слонімшчыны ды знакамітых людзей, якія тут нарадзіліся ці звязалі свой лёс са слонімскім краем. У зборнік уваходзяць 68 артыкулаў аўтара, прадмова да кнігі доктара філалагічных навук, прафесара Адама Мальдзіса і фатаграфічны дадатак, які змяшчае 106 фотаздымкаў з апісаннямі.




**Іверс Анатоль. З глыбінь жыцця: нататкі прамінулай эпохі. – Мінск: Кнігазбор, 2012 – 208 с.**

У кнігу старэйшага беларускага пісьменніка Анатоля Іверса са Слоніма (Івана Дарафеевіча Міско) увайшлі артыкулы, напісаныя ім у 1960-1990-я гады падчас журналісцкіх і літаратурна-краязнаўчых вандровак па родным краі.




**Люцік Дзмітрый. Нёманскі фронт: 15–25 ліпеня 1944 года. Баі за Гродна: аналіз падзей, данясенні, успаміны, статыстыка. – Гродна: Гарадзенская бібліятэка, 2012. – 326 с.**

Кніга набліжае да нас праўду пра падзеі Другой сусветнай вайны на тэрыторыі Беларусі і Гарадзеншчыны. Аўтар, дапытлівы гарадзенскі гісторык, крок за крокам, дзень за днём раскрывае планы і дзеянні савецкіх і нямецкіх войскаў у баях за Гродна 12–25 ліпеня 1944 года. У аснову кнігі леглі звесткі з нямецкіх даследаванняў, расійскіх архіваў, успаміны ўдзельнікаў і жыхароў горада, дзённікі баявых дзеянняў, аператыўныя дакументы, справаздачы, данясенні. Кніга стоадсоткава будзе патрэбная тым, хто цікавіцца гісторыяй войнаў у нашым рэгіёне.




**Пазьняк Зянон. Добрая фатаграфія: Фотаальбом. – Гародня – Wrocław: Гарадзенская бібліятэка, 2012. – 240 с.**

Гэта кніга-альбом, якая складаецца з фатаграфіяў і артыкулаў-эсэ пра фатаргафію, дзе галоўным з'яўляецца апавяданне пра эстэтычную адметнасць фатаграфічнага мастацтва і, адпаведна, разгляд і аналіз выбраных фатаграфіяў ад сярэдзіны XIX стагоддзя і да 2012 года. Абазначаючы тэму «Добрая фатаграфія», не ставілі задачы паказаць узровень майстэрства таго ці іншага фатографа або пазнаёміць з шэдэўрам прафесійнай фатаграфіі. У аснову адбору пакладзена адлюстраванне часу, эмацыйнае ўражанне вобразу, перажыванне чалавечага духу, адбіткі беларускай культуры, характва Зямлі і людзей, трагічны і вечны аспекты чалавечага існавання. Вобразнае ўражанне і імгненне часу ёсць асноўным крытэрам адбору. Таму там, дзе гэтае адчуванне ёсць, патрабаванні да тэхнікі абробкі фатаграфіі былі не галоўнымі, калі ў фатаграфіі выяўлены ўнікальнасць, характва і перажыванне духу. Прыярытэт аддаецца культурнай каштоўнасці, уражанню і вобразу.




**Маліноўская-Франке Наталля. Забыты вернісаж: творчасць мастакоў Гродзеншчыны 1860-х – 1930-х гг. – Мінск: Канфіда, 2012. – 192 с. – (Гарадзенская бібліятэка).**

Аўтар у сваёй кнізе адкрывае шырокаму чытачу імёны многіх мастакоў, якія ў свой час адыгралі значную ролю ў мастацкім і культурным жыцці як Гродзеншчыны, так і ўсяго Віленскага краю. Багаты фактычны матэрыял, асэнсаванне яго ў кантэксце гістарычных і культурных падзей часу, лёгкі аўтарскі стыль – усё гэта робіць кнігу Наталлі Маліноўскай-Франке карыснай і даступнай не толькі мастацтвазнаўцам, але і шырокаму колу аматараў мастацтва і гісторыі роднага краю.




**Семашкевіч Рыгор. Янка Купала і беларускае адраджэнне. – Маладзечна: Победа, 2012. – 200 с.: іл.**

У кнігу выбраных твораў Рыгора Семашкевіча ўвайшло ўсё найлепшае з яго навуковай спадчыны. Напісаная ў канцы 60-х – пачатку 70-х гадоў мінулага стагоддзя яна вызначаецца высокім прафесійным узроўнем, неардынарнасцю думак і смеласцю высноваў. Кніга адрасавана шырокаму колу аматараў айчыннай літаратуры, гісторыі і культуры.




**Барыс Сымон. Беларускія песні і гімны: зборнік песень. – Мінск: А.М. Вараксин, 2012. – 380 с.**

У кнізе сабраныя лепшыя беларускія песні на гістарычную і сацыяльна-бытавую тэматыку, сярод якіх рэкруцкія, салдацкія, казацкія, прыгонніцкія, турэмныя, а таксама прыпеўкі і гімны. Змешчана некалькі папулярных песняў нашых сучаснікаў.

У дадатку друкуюцца рускія рамансы, папулярныя песні і гімны. Каб маладое пакаленне мела магчымасць пазнаёміцца з гімнамі суседніх краінаў, тут змешчаны тэксты дзяржаўных гімнаў Расійскай Федэрацыі, Украіны, Рэспублікі Польшчы і некаторых іншых дзяржаваў.

Гэты зборнік песеняў (спеўнік) – адмысловы даведнік сучаснікам і нашчадкам. У ім змешчаныя 330 песняў (сярод іх 230 беларускіх), 54 прыпеўкі, каля 70 фотаздымкаў і 5 навукова-папулярных артыкулаў. Кожная песня, якая трапіла ў зборнік, мае сваю гістарычную даведку: дзе і калі была напісана, яе аўтары (калі ёсць), з якіх крыніц узяты тэкст песні. Некаторыя народныя песні запісаны ўкладальнікам зборніка. Да асобных песняў у дадатку змешчаныя ноты.




**Макарцоў Мікола. Тэатр мой – Беларусь святочная: сцэнарыі, рэжысёрскія нататкі. – Гомель: Барк, 2012. – 296 с.**

У кнізе пададзены сцэнарыі тэатралізаваных прадстаўленняў і свят, якія належаць пяру аднаго з прыкметных майстроў гэтага жанру. Большасць з іх была пастаўлена самім аўтарам на сцэнічных пляцоўках і ў варыянтах тэатра пад адкрытым небам у розных гарадах і мястэчках Беларусі.

Прыведзены аўтэнтычныя матэрыялы з апісаннем вячорак ці сялянскага хатняга тэатра. Розныя па тэматыцы і мастацкіх прыёмах, сцэнарыі будуць цікавымі для пастаноўшчыкаў і рэжысёраў. Дапаможа ў працы над імі раздзел кнігі «Рэжысёрскія нататкі».




**Слоўнік Свабоды: XX стагодзьдзе ў беларускай мове. Слова на дзень для памяці і для роздуму. (Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе.) – Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. – 516 с.**

«Слоўнік Свабоды» стаў юбілейнай 35-кнігай, якой «Бібліятэка Свабоды» адзначыла сваё 10-годдзе. Кніга складаецца з міні-эсэ знакавых словаў XX–XXI стагоддзяў, напісаных знакамітымі літаратарамі, мовазнаўцамі, журналістамі, у тым ліку – журналістамі Радыё Свабода.




**Бахарэвіч Альгерд. Гамбурскі рахунак Бахарэвіча. (Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе.) – Радыё Свабодная Эўропа/ Радыё Свабода, 2012. – 428 с.: іл.**

«Гамбурскі рахунак Бахарэвіча» – суб'ектыўны погляд пісьменніка на беларускую літаратурную класіку. У кнігу ўвайшлі больш за паўсотні эсэ, прысвечаных яе самым вядомым постацям беларускай літаратуры: ад Гусоўскага і Багушэвіча да Шамякіна і Быкава.




**Булгакаў Валер. Беларусь 1994–2004 гг.: разбудова дзяржавы і перасьлед нацыі. Вільня, 2012. – 118 с. – Бібліятэка «Беларускі калегіюм».**

Кніга выбраных артыкулаў Валера Булгакава прысвечаная некаторым аспектам функцыянавання беларускага грамадства і ўлады ў першыя 10 гадоў пасля атрымання Беларуссю незалежнасці. У ёй разглядаюцца пытанні тыпалогіі беларускага нацыяналізму, аналізуюцца культурныя і гуманітарныя прычыны яго палітычнага краху ў сярэдзіне 1990-х. Шмат увагі надаецца асобе першага беларускага прэзідэнта А. Лукашэнкі.




**Харэўскі Сяргей. Прачутае. – Вільня, 2012. – 142 с. – Бібліятэка «Беларускі калегіюм».**

Кніга ўяўляе збор прыватных успамінаў, сямейных аповедаў, апокрыфаў і паданняў, сведчанняў розных людзей, што давялося аўтару чуць, жывучы ў Мінску і ў Вільні, вандруючы па ўсёй Беларусі. Унікальны аўтарскі досвед, багацце мовы і разнастайнасць сюжэтаў робяць гэтыя тэксты каштоўным дакументам і захапляльнай чытанкаю для тых, хто пераймаецца пытаннямі нацыянальнай ідэнтычнасці і цікавіцца гісторыяй нашай культуры.




**Лыч Леанід. Яўрэйская культура Беларусі – яе агульны духоўны набытак. – Мінск, 2012. – 122 с.**

У кнізе ў форме навукова-папулярнага нарыса ў самых агульных рысах асвятляецца гісторыя яўрэйскай культуры Беларусі ад моманту з'яўлення гэтай этнічнай супольнасці на яе тэрыторыі і да сучаснасці. На старонках кнігі належнае месца адведзена паказу як агульнага, так і адметнага ў лёсе яўрэйскай і беларускай культураў ва ўмовах, калі над імі навісла рэальная пагроза поўнага заняпаду ў выніку мэтанакіраванай дзяржаўнай палітыкі русіфікацыі; разглядаюцца шляхі вызвалення гэтых дзвюх непадобных адна да адной культураў з-пад яе шкоднага ўплыву. Разлічана на самае шырокае кола чытачоў, заклапочаных праблемай выратавання духоўнага жыцця яўрэяў ад поўнай дэнацыяналізацыі як адной з прычынаў размывання культурнай разнастайнасці ў Рэспубліцы Беларусь.




**Янковяк Міраслаў. Беларускія гаворкі ў Краслаўскім раёне Латвіі. Сацыялінгвістычнае дасьледаваньне. Пераклад з польскай Алены Пятровіч. – Беласток: Беларускае гістарычнае таварыства; Вільня: Інстытут беларусістыкі, 2012. – 288 с.**

Кніга дактаранта Варшаўскага ўніверсітэта Міраслава Янковяка «Беларускія гаворкі ў Краслаўскім раёне Латвіі» пабачыла свет на польскай мове ў 2009 годзе ў выдавецтве Інстытута славістыкі Польскай Акадэміі навук. Цяпер яе пераклад на беларускую мову даступны беларускаму чытачу.

Перад намі інтэрдысцыплінарнае даследаванне, якое падае розныя метадалагічныя ракурсы на акрэсленую вышэй праблематыку. Кніга адкрываецца картамі, якія ілюструюць тэрыторыю рассялення беларускай меншасці ў Латвіі. Асобнай увагі заслугоўвае аналіз моўнага заканадаўства ў Латвіі – мадэлі, якая можа быць выкарыстаная ў будучай дэмакратычнай Беларусі. У кнізе прасочваецца беларуская прысутнасць у Латвіі з часоў полацкіх калоніяў Герцыке і Кукейнас і да сёння. Ну, і самае галоўнае, у выданні дэталёва і рознабакова даследуецца сённяшняя беларуская мова Латгаліі, даюцца яе ўзоры, а таксама разглядаецца нацыянальная свядомасць яе носьбітаў.

# Апошні жыхар мястэчка G




**Шалкевіч Віктар. Мястэчка G… …і ваколіцы…: дзевятнаццаць апавяданняў і п'еса. – Мінск: Кнігазбор, 2012. – 112 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 30).**

У кожным паселішчы, малой вёсцы ці вялікім горадзе, ёсць свой адметны дух. Надзвычай проста яго знайсці і ля падмуркаў старых камяніцаў, і на бруку пакуручастых даўнейшых вуліц, пачуць на кірмашовых пляцах і на званіцах бажніцаў, убачыць яго адлюстраванне ў вітрынах зграбных крамак і ўтульных кавярняў.

Так, дух адчуць проста – калі ўсё пералічанае ёсць, як ёсць яно ў Вільні і Празе, Львове ці Рызе. А што рабіць, калі ты – беларус XXI стагоддзя і маеш справу з іншым наборам прыкметаў места – шэрыя пяціпавярховікі, адвечныя калюжыны ў дзіравым асфальце на вуліцах герояў рэвалюцыі, на пляцы – ДК і выканкам з Ільічом, ды хаатычна раскіданыя агідныя кропкі грамадскага харчавання з рэдкімі грамадскімі прыбіральнямі? Дух і тут, канечне, мае месца, але такі, што хочацца нацягнуць адгазнік…

Ратуюць гэтую гаротную карціну хіба тыя выпадкі, калі дух паселішча знаходзіць прытулак у душах месцічаў, тубыльцаў, жыхароў самога мястэчка і яго ваколіцаў.

Кніга «Мястэчка G і ваколіцы» Віктара Шалкевіча якраз прасякнутая такім дэфіцытна-салодкім і амаль страчаным у наш час духам. І справа не толькі ў сюжэтах і героях, а ў найбольшай ступені ў тым, што сам аўтар – жыхар тых вёсак і мястэчак Заходняй Беларусі, якія зніклі з рэальнай паўсядзённасці і засталіся ў яго марах і ўспамінах.

«Мястэчка G і ваколіцы» – гэта настальгія ў чыстым яе выглядзе. Але не па месцы, а па часе. Яна, гэтая настальгія, фірмовая адзнака сп. Шалкевіча – дастаткова прыгадаць зварот аўтара на вокладцы альбома «Смутны беларускі блюз» (1996): «Жыхарам колішняга Вялікага Княства Літоўскага, раскіданым па ўсім свеце, прысвячаецца»… Хіба розніца ў тым, што там былі песні – тут апаведы.

…Асабіста я далёкі ад думкі, што захапленне каларытам мінулага з'яўляецца агульным культурніцкім фонам у сучасным айфонным грамадстве. Зразумела, што гісторыя, мінуўшчына і старасвецкасць як такія – толькі частка з неабходнага ў сістэме каардынат «было-ёсць-будзе», але пан Бог сведка – як нам бракуе менавіта яе!

Бракуе ў тым выглядзе, дзе яна не міфічна-велічная, як у маэстра Караткевіча, не прашытая кулямі, як у класіка Быкава, а блізкая, інтымна-пяшчотная, па-добраму смешная і такая прыватная, як у спадара Віктара Шалкевіча.

Ведаеце, панове, ёсць выдатныя творы, чытаючы якія, глядзіш на панараму апісанага сюжэту пры ўсёй цікавасці ўсё ж адстаронена, бо ён такі грандыёзны, маштабны і такі сусветна значны, што ты – маленькі нікчэмны чалавечак, апроч як зайздросна паглядаць здалёк, нічога, напраўду, і не можаш. Асаблівасць жа змешчаных у «Мястэчка G і ваколіцы» апаведаў у тым, што адразу па прачытанні першых абзацаў падаецца, што ці ты сам, ці твае сваякі-знаёмцы былі ўдзельнікамі азначаных падзеяў, бачылі гэта ўсё на свае вочы, ці, у крайнім выпадку, дакладна чулі ўсё гэта ў нядзелю на кірмашы ў мястэчку. Сюжэты твораў простыя і адвечныя, як свет: маленства і бацькоўскі дом, суседзі і сябры, каханне і смерць – блізкая і зразумелая кожнаму рэчаіснасць. Асобнае месца належыць узгадкам маленства і юнацтва, ці нават, больш правільна сказаць, не самім узгадкам (бо ў кнізе іх не так шмат), але разгляду падзеяў нібы вачыма таго хлопчыка-падлетка, які калісьці бегаў па вуліцах свайго маленства. У апаведах, змешчаных у кнізе, дзіўна хораша ўдаецца аўтару сумяшчаць жыццёвы досвед сталага чалавека з шчырай безабароннасцю дзіцяці, якое трымае ў руках «аранжавы пластмасавы карабельчык з таямнічым надпісам – «Руденск», што застаўся недзе там…

Дарэчы, гэтае нявызначанае і прыцягальнае «там» з'яўляецца, кажучы казённаю моваю крытыкі, адным са знакавых вобразаў у творчасці сп. Шалкевіча і працягам узгаданай вышэй настальгіі па часе. У далёкім ужо 1998 годзе, у альбоме «Балады і рамансы», у адметнай сваёй энергетыкай песні «Шчуры Еўропы» быў злавесна-таямнічы рэфрэн: «Там… там… там…». Але, калі ў выпадку «Шчуроў Еўропы» «Там» – гэта была хутчэй будучыня, то ў 2012 годзе ў кнізе «Мястэчка G і ваколіцы» казачна-летуценнае «Там» з'яўляецца зноў, але ўжо ў вобразе мінулага. І зараз ужо гэта, так бы мовіць, адзін з уяўных архетыпаў аўтара. Менавіта «там» – як калектыўнае несвядомае выразна прасочваецца ў аднайменным апавяданні – дзе асабістыя ўзгадкі суседнічаюць з узгадкамі падзеяў, пабачаных нібыта вачыма дзеда і прадзеда, то бок ранейшых пакаленняў. «Там» – гэта не толькі мінулае-недасяжнае, «там» – гэта незваротна страчанае, якога жудасна бракуе ўсім нам.

Вялікай адметнасцю, хоць і для ўсіх знаёмых з асобаю аўтара, зразумела, адметнасцю выключна чаканай, ёсць сакавіты гумар мовы ўсіх без вынятку тэкстаў кнігі. Не ведаю як вам, спадары, а мне вельмі не хапае ў сучаснай беларускай літаратуры менавіта добрага і разумнага гумару – не плачу аб старонцы, не галаваскрутнага экшану, не натуралізму чужых войнаў, не шызафрэнічнага самакапання з элементамі сада-маза, а менавіта тонкага пачуцця гумару. Падумалася, што яно, гэтае пачуццё як славутая «Бехераўка», 26 інгрыдыентаў якой усім вядомыя ўсім, а адзін фінальны і галоўны – не. У выпадку з гумарам на першы погляд таксама проста – гэта адпаведны тэмперамент плюс інтэлект, плюс жыццёвы досвед, плюс… нешта такое, што камусьці дадзена, камусьці – не…

*P.S. «Мястэчка G і ваколіцы» – гэта трошкі ўспаміны, трошкі байкі, але найбольш безумоўна добрая лірыка з вялікім гумарам. На паліцы кніжніцы «Мястэчка G і ваколіцы» адразу змясцілася побач з кніжкамі «Фрашкі да пляшкі» Северына Квяткоўскага і «Сямейным альбомам» Вінцэся Мудрова. Я не параўноўваю гэтыя творы, яны розныя. Проста ў іх ёсць нешта няўлоўна блізкае. Асабіста мне.*

**Усевалад Сцебурака**

# «Паэзія не бывае чужой ці нечай...»

(Пачатак на стар. 1)

ную таемнасць. Чым далей, тым больш… Цяпер сям-там можна заўважаць адраджэнне самой прыроды мастацтва. Творцы сталі праяўляцца ўсё больш выразна. Яшчэ мала высокіх літаратурных набыткаў, але яны ўжо ёсць. І гэта ўсцешвае. Не выпускаю з поля зроку паэтычную творчасць Ярыны Дашынай, Янкі Лайкова, Віталя Рыжкова, Антона Рудака…

**– Ян Максімюк у артыкуле «Страх крытыкі» сцвярджае, што «беларускай літаратурнай крытыкі няма». Крытыкі сапраўды няма? Што, на Вашую думку, стрымлівае развіццё беларускай крытыкі?**

– Развіццю крытыкі перашкаджае кволае развіццё літаратуры. Так як літаратура робіцца ўсё больш даходліва-візуальнай, то глыбіня мыслення і творчае майстэрства адпрэчваюцца прагматызмам хуткаплыннага чалавечага існавання. Такая ўжо сёння эвалюцыя зямной цывілізацыі, «няпісаным правілам» якой супрацівіцца вельмі малая колькасць творчых індывідуумаў. Таму мяне абсалютна не здзіўляе, што абслугоўваннем падобнай («пачасовай») літаратуры займаецца літаратурная журналістыка. І, здаецца, такой літаратуры гэтага дастаткова, хоць недзе некаму, магчыма, хочацца і большага: каму – прэміі імя Ежы Гедройца, каму – Дзяржаўнай, а каму і – Нобелеўскай... Сваю ролю тут адыгрывае і малая чытацкая аўдыторыя. «Відовішчаў і хлеба!» – вось што стаіць у нас на парадку дня. Хакей і Дажынкі не сыходзяць з экранаў тэлевізараў.

Аднак гэта не азначае, што вартай літаратурнай крытыкі ў нас няма. Хіба сур'ёзнаму чалавеку нічога не гавораць такія імёны як І. Шаўлякова, Г. Кісліцына, Ц. Чарнякевіч, А. Лапіцкая… Магчыма, яны пішуць з разлікам «на заўтра». Дык гэта тым больш не павінна спараджаць страху і паміранння…

**– 2012 год быў абвешчаны Годам кнігі. Ці адчулі Вы як пісьменнік і крытык адметнасць гэтага года? Якую кнігу (кнігі) Вы лічыце «Кнігай года»? На якія кнігі параіце звярнуць увагу чытачам «Кніганошы», пашукаць у кнігарнях?**

– У гэтым плане ў мяне год як год. Як народ кажа, хоць гаршком назаві… Адчуваю, што старэю і ўсё больш самотнею. А адзінокаму, замкнёнаму ў сабе, што чалавеку трэба? Найперш кніга. Мне прынамсі. Таму як чытаў, так і чытаю. Скажу, што з новага з задавальненнем сёлета прачыталася: «Рай даўно перанаселены» Алены Брава, «Ланцуг» Андрэя Федарэнкі, кніга перакладной паэзіі Яна Твардоўскага «Разам з табою», «Адна капейка» Уладзіміра Сцяпана, зборнік эсэ і мініяцюр «Паспець надыхацца» Сяргея Рублеўскага, чытаю нядаўна падораны галіяфаўскі томік Юры Станкевіча «Шал»… Кнігі на чужы густ і падказкі не выбіраю, не чытаю і другім не раю. Проста чытаю тое, чаму здзіўляюся і па-добраму зайздрошчу. Гэта прыходзіць з гадамі. Таму маладзейшым зычу расці чытаючы.

## ■ КАНТАКТЫ

Пададзеныя ў бюлетэні кнігі
Вы можаце замовіць непасрэдна ў выдаўцоў
па наступных кантактах:

Кніжныя серыі:
**«Бібліятэчка «Дзеяслова»,**
**«Кнігарня пісьменніка»,**
**«Бібліятэка «Бацькаўшчыны»,**
e-mail: knihanosza@gmail.com,
тэл.: +375 17 200 70 27

**«Гарадзенская бібліятэка»,**
e-mail: dzmuchavec@gmail.com,
тэл.: +375 29 133 87 17

**ІП «Логвінаў»,**
e-mail: logvinovpress@mail.ru,
тэл.: +375 29 667 47 57

**ПУП «Кнігазбор»,**
e-mail: bkniha@tut.by,
тэл.: +375 29 772 19 14

**ПУП «Радыёла-плюс»,**
e-mail: siuchykau@gmail.com,
тэл.: +375 44 755 94 44

**СТАА «Медысонт»,**
e-mail: medisont@gmail.com,
тэл.: +375 29 623 74 10

**Выдавецтва «Галіяфы»,**
e-mail: vish@bk.ru,
тэл.: +375 29 678 68 06

**Выдавецтва «Лімарыус»,**
e-mail: limarius@yandex.ru,
тэл.: +375 29 679 33 36

**ІП «Зміцер Колас»,**
e-mail: zkolas@gmail.com,
тэл.: +375 29 623 35 65



ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ
КНІГА НОША
№ 17
снежань, 2012
ЗАСНАВАЛЬНІКІ: ГА"САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ", МГА"ЗБС"БАЦЬКАЎШЧЫНА"

**Інфармацыйны бюлетэнь МГА «ЗБС «Бацькаўшчына» і ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў».**
Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Наклад 299 асобнікаў. № 17, 24.12.2012.
Адказны за нумар – Алесь Сачанка.
Адрас рэдакцыі: г. Мінск, вул. Кузьмы Чорнага, 31-906, 220012, тэл./факс: (+375 17) 200 70 27.
E-mail: knihanosza@gmail.com